# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

V ГОД ВЫДАННЯ № 12 (212) 20 САКАВІКА 1960 Г. Цана 60 гр. Cena 60 gr.


# ДЗЕСЯЦІГАДОВАЯ МІЛЬЯНЕРКА

27 лютага г. г. спулдзельцы ў Васьках на ўрачыстым сходзе падвялі баланс сваёй працы за мінулы год, дзесяты раз ў гісторыі свайго існавання. Прыемны юбілей! Тым больш прыемны, што васькоўская спулдзельня сваё дзесяцігоддзе сустрэла незвычайным дасягненнем. Яна стала спулдзельняй - мільянеркай. Вартасць яе маёмасці складае суму 1.152.494,50 зл.

### НІЧОГА БЕЗ ПРАЦЫ І НАВУКІ

За гэтай сумай трэба бачыць людзей, бо ж людзі сваёй працай стварылі гэтую маёмасць.

На адну спулдзельчую сям'ю ў Васьках прыпадае 4,5 гектары зямельных угоддзяў. Зямля дрэнная. 68 прац. зямельных угоддзяў — гэта пяты і шосты класы. Аднак і на гэтай зямлі супольнае гаспадараванне, супольны. намаганні і агратэхніка стварылі магчымасць вырошчвання, напрыклад, пшаніцы, калі суседзі аднаасобнікі нават не думаюць яе сеяць.

Ураджайнасць у спулдзельцаў штогод безупынна расце і зараз яна перавышае на 3—4 цэнтнеры з га ураджайнасць асноўных збожжавых культур у аднаасобніцкіх гаспадарках гэтага раёна.

### З ДУМКАЙ АБ БУДУЧЫНІ

Разумнаму чалавеку, кажуць, грошы плывуць з паветра. З думкай аб такой мэце гаспадаруюць васькоўскія спулдзельцы. Да працы над памнажэннем супольнага даходу прыцягнулі, напрыклад, 15 вулляў пчол. Спулдзельцы пасадзілі таксама 2,72 га саду. Ён яшчэ малады і пакуль-што не дае даходу, але з'яўляецца добрым прыкладам, як трэба марказаць аб будучыні.

### СУПРАЦОЎНІЦТВА З АДНААСОБНІКАМІ

Беспрыкметна мінуў той час, калі з усіх

(Працяг на стар. 4).

# БЕЛАРУСКАЕ вяселле



Ліду Вакулеўскую, якая выконвае ў фільме ролю «маладой», прыбіраюць у традыцыйны висельны «велян».

Вёска Пасынкі Бельскага павета. Ужо здалёк чуваць у вёсцы гул матораў, а па вуліцы ходзяць дзяўчаты і хлопцы, апранутыя ў красачныя беларускія народныя касцюмы. Перад адной з сялянскіх хат размясціліся аўтамашыны, ад чкіх ва ўсе бакі бягуць правады. Перад хатай шмат моладзі і старэйшых. У хаце зіхацяць рэфлектары, стракочуць кінаапараты, увіхаецца рэжысёр. Рэалізуецца кінафільм «Беларускае вяселле».

Карыстаючыся ветлівасцю кіраўніка фільма, мы падзелімся з нашымі чытачамі некаторымі падрабязнасцямі з рэалізацыі гэтага кінафільма.

У рамках тэматычнага плана Студыя асветных фільмаў у Лодзі рэалізуе фільм пад загалоўкам «Беларускае вяселле». Рэжысёрам фільма з'яўляецца Канстанцін Гордон, кіраўніком фільма — Юры Ядлоўскі, аператарам Генрых Кухажук. Кансультантам фільма з'яўляецца Мікалай Гайдук.

Фільм будзе расказваць аб фальклоры беларускага насельніцтва, якое пражывае ў Польшчы. Па прычыне вузкіх рамак і немагчымасці расцягнуць фільм на большы метраж, рэжысёр фільма Канстанцін Гордон згадзіўся паказаць толькі невялікі фрагмент з беларускіх народных абрадаў, а ў прыватнасці вясельных.

А скажыце, калі ласка, — звяртаемся да кіраўніка фільма Юрыя Ядлоўскага, — якія ваш ўражанні з пабыту на Беласточчыне сярод беларусаў, пражываючых у Польшчы?

(Працяг на стар. 5)



21 САКАВІКА Г. Г. СПАЎНЯЕЦЦА 120 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА — ВЫДАТНЕЙШАГА БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕННІКА XIX СТ. НА СТАР. 3 ЧЫТАЙЦЕ «НА РАДЗІМЕ ПАЭТА».

Перадз'ездаўская дыскусія

# ЁСЦЬ АБ ЧЫМ ДЫСКУТАВАЦЬ, МАЛАДЫЯ ТАВАРЫШЫ



Набліжаецца III-ці З'езд Беларускага грамадска - культурнага таварыства. Несумненна, што справы моладзі вельмі блізкія нашаму Таварыству, і не мала важныя. Моладзь гэта сённяшні таварыш нашай барацьбы, а заўтрашні прадаўжальнік усяго таго, што мы зрабілі.

Сярод задач, якія паставіла партыя перад нашым Таварыствам, не апошняе месца мае таксама справа выхавання маладога пакалення нашай беларускай меншасці.

На Гайнаўшчыне члены БГКТ гэта ў 60 прац. моладзь ва ўзросце ад 16 да 30 год. Гэта той перыяд жыцця, які дае кожнаму чалавеку багаты дар — поўную сіл і энергіі маладосць, цягу да ведаў, ясныя надзеі, мары і жаданні зрабіць нешта ўзнёслае, прыгожае. Менавіта ў гэтым перыядзе жыцця афармляецца характар чалавека, яго ідэі і мэты.

Хочам, каб у радах Таварыства раслі людзі з перадавымі поглядамі, з глыбокай верай у ідэю канчатковага вызвалення чалавека, з патрыятычнымі пачуццямі, адважнымі і са стойнымі думкамі. На маю думку, у дагэтулашняй працы Таварыства неяк зусім мала прысвячала ўвагі справам выхавання моладзі. І таму на будучым З'ездзе гэтае пытанне павінна выступіць на пярэдні план.

Вынікі з'езду будуць залежаць ад яго падрыхтоўкі. Мне здаецца, што падрыхтоўка да З'езду БГКТ на Гайнаўшчыне праходзіць не найгорш. Моладзь нашага павета вітае З'езд Таварыства канкрэтнымі пачынаннямі. За апошні час маладыя земляробы арганізавалі калектывы па сельскагаспадарчай падрыхтоўцы ў Саках, Ласінцы, Рэпісках, Белыстоках, Арэшкаве і іншых вёсках, у якіх вучыцца звыш 460 маладых хлапцоў і дзяўчат. Добра таксама развіваецца ў нас рух мастацкай самадзейнасці. Толькі ў апошні час моладзь арганізавала 7 новых гурткоў мастацкай самадзейнасці,

(Працяг на стар. 2)

(Працяг са стар. 1)

між іншым, у Васьках і Тыневічах Вялікіх, што мае вялікае значэнне ў сэнсе цікавага і карыснага правядзення доўгіх зімовых вечароў у засыпаных снегам вёсках.

Але з другога боку, падрыхтоўка да з'езду вымагае таксама павелічэння палітычнай і арганізацыйнай актыўнасці сярод членаў Таварыства.

Асабліва мала такой актыўнасці назіраецца сярод моладзі. Няма яшчэ ў нас атмасферы глыбокай дыскусіі, у час якой моладзь канкрэтна выказвалася б на тэму дзейнасці Таварыства, выказвала б канкрэтныя прапановы і жаданні ў яго далейшай дзейнасці.

Ці ёсць аб чым дыскутаваць у гэтай галіне?

# ЁСЦЬ АБ ЧЫМ ДЫСКУТАВАЦЬ, МАЛАДЫЯ ТАВАРЫШЫ

Так, шмат ёсць спраў, якія хвалююць нашую моладзь.

Для прыкладу тут можна паставіць справу ідэалагічнага ўздзеяння Таварыства на нашую моладзь.

Ідэалагічная дзейнасць Таварыства ў многіх гуртках БГКТ не паспявае за патрабаваннямі членаў Таварыства, або, што яшчэ горш, зусім не праводзіцца. А ці ж не варта было б разгарнуць дыскусію ў гуртках БГКТ і асабліва сярод моладзі, напрыклад, у справе патрыятызма і інтэрнацыяналізма? Гэта справы не новыя, але ўсё яшчэ ў нас на гэтыя тэмы ёсць шмат непаразуменняў і неяснасцей. Моладзь хоча ведаць, як узнік свет, жыццё і людзі, імкнецца да навуковага вытлумачэння гэтых з'яў. Некалі цёмныя сілы намагаліся ўбіць людзям веру, што адбылося ўсё гэта нейкім надпрыродным «вышэйшым», чынам. Праца Таварыства павінна садзейнічаць таму, каб лепш, чым дагэтуль, ачышчаць псіхіку маладых людзей ад усялякіх перажыткаў і дурману адсталасці, каб больш актыўна змагацца з усялякімі забабонамі і цемрай, якія яшчэ даволі моцныя ў нашых вёсках. Вось на гэтыя тэмы асабліва варта было б падыскутаваць перад з'ездам. Якія прыняць метады працы, каб малады чалавек, член БГКТ, любіў кніжку, быў уражлівым на прыгажосць музыкі, мастацтва, добра ўсведамляў сабе багатую спадчыну роднай культуры і ўсё тое, што найлепшае ў культуры другіх народаў? І на гэтыя тэмы варта пашырыць дыскусію.

Шмат маладых людзей думае аб тым, як найлепш пражыць жыццё, каб быць заўсёды плённым і патрэбным грамадскасці, як выкараніць подласць, эгаізм і ўсё тое нядобрае, што іржой уядалася ў душы людскія стагоддзямі. Менавіта ў БГКТ ёсць месца на тое, каб маладыя хлопцы і дзяўчаты фармавалі ў сабе найпрыгажэйшыя чалавечыя рысы, каб узаемна высвятлялі сабе, што добрае, а што не, у іх пачынаннях.

БГКТ не дзейнічае ў ізаляцыі. Жыве яно жыццём усяго нашага народа, удзельнічае ва ўсякіх здарэннях, якія адбываюцца ў нашым жыцці. Падрыхтоўка да III з'езду адбываецца ў той час, калі народ, узмацняючы Фронт адзінства, імкнецца да выканання пастаноў III-га з'езду партыі. Праца Таварыства павінна садзейнічаць таму, каб нашая нацыянальная меншасць і асаблівa моладзь не была апошняй у рэалізацыі гэтых пастаноў. Як гэта зрабіць, якія метады працы будуць найлепшымі, трэба шырока абмяркаваць перад з'ездам.

**КАСТУСЬ ЛЯШЧЫНСКІ**
**— член партыйнай камісіі па справах моладзі пры КП ПАРП у Гайнаўцы.**

# ДАПАМОГА ДАПАМОЗЕ НЯРОЎНАЯ

Апошняе падарожжа прэм'ера Савецкага Саюза Н. С. Хрушчова па краінах Паўднёвай Азіі і Прэзідэнта Злучаных Штатаў па краінах Паўднёвай Амерыкі ўсё яшчэ выклікаюць на Захадзе бурную дыскусію па пытанню палітычных уплываў у залежных і гаспадарча адсталых краінах.

Нічога дзіўнага, што многім заходнім палітыкам, а перш за ўсё правадырам ЗША, справа ўстанаўлення адносін з краінамі, якія змагаюцца за вызваленне з-пад каланіялізма, зводзіцца да замены старога палітычнага насілля гаспадарчай залежнасцю.

Такім мэтам, мэтам гаспадарчага ўзалежнення слабейшых краін, служыць большасць пазык, якія даюць ЗША і Вялікабрытанія краінам Афрыкі і Азіі.

— Дапаможам вам, калі будзеце нас беззаганна падтрымліваць. — Вось дэвіз, пастаўлены імперыялістычнымі дзяржавамі перад гаспадарча - адсталымі краінамі. Вынікі ўспрыняцця гэткіх дэвізаў найлепш відаць на прыкладзе такіх краін, як Іран, Пакістан, Сіям ці Філіпіны, якія прынялі ахвяраваную Захадам гаспадарчую дапамогу. Перад кожнай з гэтых краін, за гаспадарчую дапамогу былі пастаўлены палітычныя вымаганні. Зараз усе тыя краіны Далёкага Ўсходу ці Паўднёвай Амерыкі, якія выкарысталі амерыканскую дапамогу, знаходзяцца пад палітычным уплывам ЗША.

З цягам часу Іран, Пакістан, Сіям ці Філіпіны аказаліся ўключанымі ў агрэсіўныя мілітарысцкія блокі, аддалі частку сваіх тэрыторый пад амерыканскія вайсковыя базы.

Рэкламаваная ўсюды гаспадарчая дапамога ў выніку прывяла да забеспячэння гэтых краін танкамі, гарматамі і амерыканскімі самалётамі.

Такі склад думак і адносіны заходніх палітыкаў да справы дапамогі гаспадарча адсталым краінам найлепш ахарактарызаваны карэспандэнтам УПІ Томашам Куранам. Ён піша: «Усход і Захад вядуць між сабою партызанскую вайну за 26 афрыканскіх нацыянальнасцей, якія налічваюць 230 мільёнаў людзей». Амерыканскаму журналісту, так як і многім палітыкам, справа гаспадарчай дапамогі зводзіцца да сферы палітычных уплываў.

Сутнасць справы заключаецца аднак у іншым, і гэтага не хочуць бачыць некаторыя заходнія палітыкі. Апошняе падарожжа прэм'ера Савецкага Саюза Н. С. Хрушчова ізноў падцвердзіла, што дапамога Савецкага Саюза слабаразвітым краінам не скрывае ў сабе ніякіх палітычных агаворак.

У той час, калі заходнія дзяржавы пасылаюць у Індыю жавальную гуму, кокаколу і непатрэбныя на ўнутраным рынку кансервы, Савецкі Саюз будуе гэтай краіне гіганцкі металургічны завод, які неўзабаве дасць паўтара мільёна тон гадавой прадукцыі.

Сваю дапамогу гаспадарча адсталым краінам Савецкі Саюз не ставіць у залежнасць ад характару замежнай палітыкі ці форм унутранай улады ў тых краінах. Калі гаварыць аб партызанскай вайне, дык толькі і выключна ў адносінах да імперыялістычных краін, якія на незалежнасць маладых народаў глядзяць праз прызму ўласных інтарэсаў. Савецкі Саюз не мае палітычнай зацікаўленасці ў Паўднёвым Егіпце, дзе на надзвычай карысных (для Егіпцян) умовах будуе гіганцкую Асуанскую дамбу.

Ніякіх палітычных мэтаў не мае таксама Савецкі Саюз у Эфіопіі, хоць дапамагае ёй нізкапрацэнтавымі пазыкамі, ні ў Кубе, якой нясе дапамогу ў галіне развіцця народнай прамысловасці ці ў Інданезіі, дзе будуе фабрыкі і спартыўныя ўстаноўкі. Такім чынам слабаразвітыя краіны атрымліваюць дзве розныя дапамогі.

Дапамогу, якая прыводзіць да гаспадарчай залежнасці, а ў выніку, да страты ўласнага суверэнітэту. Такую дапамогу аказваюць імперыялістычныя дзяржавы; і дапамогу, якую трэба разумець па-братэрску, без карысці для таго, хто дапамагае, і якая ўмацоўвае палітычную незалежнасць гаспадарча слабаразвітых краін. Такую дапамогу аказвае Савецкі Саюз і ўсе сацыялістычныя дзяржавы. Народы маладых, вызваляючыхся дзяржаў штораз дакладней заўважаюць розніцу, якая існуе паміж гэтымі двума формамі дапамогі. Таму заходнія палітыкі не павінны здзіўляцца, што гэтыя народы выбіраюць тую дапамогу, якая дае ім карысць.

**У. ЛАЗІНСКІ**




Кормяць нядрэнна, два разы ў тыдні я атрымліваю бутэльку водкі. Апрача гэтага, мне выдаюць не малую суму акупацыйных марак.

Ад каменданта Эрыха Шнабаля я атрымаў сталы пропуск, які даваў права адлучацца з станцыі да адзінаццатай ночы.

Пропуск вельмі дарэчы: мне трэба бываць у горадзе рэгулярна — я чакаю ўмоўленых знакаў ад Крываручанкі.

Вечарам у дзень прыезду ад доктара я ўбачыў у сваім пакоі вялікі радыёпрыёмнік «Філіпс». Прызнацца, я быў азадачаны яго з'яўленнем і пры першай сустрэчы з Губартам пацікавіўся прычынай гэтакай шчодрасці. Губарт адказаў, што прыёмнік паставілі ў мой пакой па яго загаду. Ён лічыць, што мне нельга адрывацца ад савецкай рэчаіснасці, у якой я жыў і буду жыць далей, нельга не ведаць таго, што там дзеецца.

Аднойчы раніцай у першыя дні пасля вяртання ад доктара ўвайшоў да мяне стары з бярэмем дроў. Паклаўшы дровы каля печкі, ён пачаў распальваць агонь.

Калі дровы заняліся і пачалі патрэскваць, стары з хвіліну паглядзеў на полымя, потым дастаў кісет з табакам, кавалак газеты і пачаў круціць цыгарку такую велізарную, быццам яна была разлічана на дзесятак людзей.

Аблізаўшы закрутку, ён выцягнуў з печкі вугалёк і прыкурыў папяросу. Дым ад яго закруткі паплыў па пакоі і выклікаў у мяне нестрыманае жаданне закурыць. І закурыць менавіта з кісета ста-

53

рога, скруціць цыгарку з яго ж абрыўка газеты. Я не вытрымаў:

— Дзядок, падзяліся табачком!

Ён падыйшоў да мяне і падаў кісет.

— Недзе вы прападалі? Колькі дзён таплю печку на вецер, а кватаранта няма.

Дзед паглядзеў на мяне ўважліва і спытаў:

—З рускіх?

— Чаму «з рускіх»! Рускі, — адказаў я.

— Вось я і падумаў, што рускі... Табачок паршывы, самаробны — гарладзёр...

— Нічога, усялякі курыць давялося, — сказаў я.

— Ну, тады частуйцеся. Мая справа — папярэдзіць.

Я прыкурыў ад яго закруткі, зацягнуўся, і вочы мае палезлі на лоб: самасад да таго быў моцны, што горла здушылі спазмы, я закашляўся, і слёзы паплылі з вачэй.

— Ну як? — спытаў, стрымліваючы ўсмешку, дзед.

Я не мог адразу загаварыць, кінуў закрутку ў печку і кашляючы чуць выдушыў з сябе:

— Табачок, хай ён прападзе...

— Гэта з непрывычкі, — супакоіў мяне стары. — А наогул, зразумела, табак паршывы, гарладзёр... Я ж папярэджваў...

— Ну, трэба бегчы, — заспяшаўся ён. — Зараз яшчэ дроў прынясу, і ў вас будзе цёпла, як у лазні.

— Пачакай, дзядок, паспееш. Завуць — та цябе як?

— Фама Філімоныч Кальчугін.

Я пацікавіўся сямейным становішчам старога.

54

Кальчугін расказаў, што мае двух сыноў і дачку. Старэйшы сын эвакуіраваўся, малодшы — невядома дзе. Дачка жыве з ім.

Стары зноў заспяшаўся, я яго больш не затрымліваў. Мне трэба было ісці на першы ўрок па радыёсправе.

Калі я з'явіўся да свайго «настаўніка» Вальтэра Раўха, той збіраўся выходзіць. Ён быў трэцім на даследчай станцыі, апрача Губарта і Пахітуна, які валодаў рускай мовай.

Папярэдзіўшы мяне, што яго выклікае Губарт, Раўх папрасіў пачакаць і падсунуў мне ў рукі нейкі ілюстраваны часопіс.

Я застаўся адзін. У пакоі Раўха я быў першы раз. Мяне зацікавіў вялікі настольны гадзіннік у драўлянай аправе, які стаяў у кутку на тумбачцы. Я падыйшоў да гадзінніка і пачаў яго разглядваць. Гадзіннік быў упраўлены ў разбяны драўляны футляр, які меў выгляд старыннай гатычнай вежы. Знізу — вароты, на самым версе — крыж. На п'едэстале я прыкмеціў тры маленькія разнакаляровыя кнопкі: адна — белая, другая — сіняя і трэцяя — чорная.

Я задумаўся. Навошта тут кнопкі? Ужо ж, зразумела, не для таго, каб накручваць гадзіннік, і не для таго, каб пераводзіць стрэлкі.

Націснуў адну кнопку — гадзіннік працягваў цыкаць. Націснуў другую, трэцюю — тое самае. Потым ён урачыста пачаў выбіваць час, і меладыйны гук працяжна ліўся ад аднаго ўдару да другога.

«А можа быць, кнопкі для таго, каб спыняць звон?» І я зноў націснуў па чарзе ўсе тры. Не!

55

Гадзіннік спакойна працягваў адбіваць удары: пяць, восем... дзесяць.

У акне я ўбачыў дзеда Кальчугіна. Ён, як і абяцаў, нёс у мой пакой новае бярэмя дроў. Вось ён прайшоў міма. Я пачуў, як скрыпнулі вонкавыя дзверы, як заціхалі яго крокі ў канцы калідора, ля майго пакоя. І раптам раздаўся такі грукат, што я мімаволі ўстрасянуўся і агляянуўся. Мне здалося, быццам вось тут, побач, нехта кінуў на падлогу дровы. Але ў пакоі нікога не было. У чым жа справа? Няўжо, калі дзед Кальчугін кідае дровы ў маім пакоі, грукат чутны тут?

Славное море, священный Байкал... — спяваў стары. Я адразу пазнаў яго голас. Кальчугін прыціхаў, кашляючы і зноў цягнуў:

Молодцу плыть недалечс...

Гукі выходзілі з гадзінніка, я нагнуўся да яго.

Шилка и Нерчинск не страшны тепер, —

Горная стража меня не поймала...

І раптоўная думка асяніла мяне: кнопкі!

Уся справа ў іх! Я націснуў белую — спеў працягваўся, сінюю — тое самае, наканец чорную — і голас Кальчугіна ў адзін момант абарваўся і прапаў. Зноў націснуў на яе;

...Хлебом кормили крэстьянки меня...

Яшчэ раз націснуў кнопку — і голас змоўк.

Цяпер мне ўсё ясна! Мяне падслухоўваюць. З майго пакоя ў пакой Раўха ідзе спецыяльная праводка да ўзмацніцеля, а ён замаскаваны ў гадзінніку. Адкрыццё важнае. Вельмі важнае. Трэба было канчаткова ўпэўніцца ў тым, што дзед Кальчугін знаходзіўся і спяваў менавіта ў маім пакоі.

(Працяг на стар. 4—5

56

 

# НА РАДЗІМЕ ПАЭТА

С. АЛЕКСАНДРОВІЧ

Ёсць штосьці адметнае і непаўторнае ў краявідах Ашмяншчыны, асабліва ў тую пару года, калі лета мяняе фарбы і непрыкметна пераходзіць у залатую восень. Хоць мы ехалі прасёлкавымі дарогамі з-пад Нарачы і Свіра і ў нас перад вачыма стаялі маляўнічыя мясціны азёрнага краю, нельга было не залюбавацца прыгожымі пагоркамі, з якіх адкрывалася цудоўная панарама. Далягляд вельмі шырокі: кіламетраў на 15—20 праглядаецца раўніна, што змыкаецца з сінеючым борам, які расплываецца ў перадасенняй смузе, зелянеюць паплавы і калгасныя палеткі бульбы, а ў лагчынах, дзе паблісквае рачулка, раскіданы вёскі і хутары. Там жа, дзе нядаўна шумела збажына, пасецца статак ці ўжо грукоча трактар.

Пераязджаем уброд рачулку з пясчаным камяністым дном і спыняемся каля маленькага вадзянога млына.

— У Кушляны вам? Да Мацея Бурачка? — перапытвае пажылы дзядзька, увесь выпудраны мукою. — Вось там за ліпкай звярніце налева і праступце, аж да яго хаты...

Між старых высокіх клёнаў відаць вялікі прысадзісты драўляны будынак з просценькай верандай - страхой на падпорках са звычайных слупоў.

Дрэвы, што былі пасаджаны рукою Ф. Багушэвіча, пышна разрасліся на прыволлі і цяпер шалясцяць лісцем пад лёгкім подыхам ветру. Здаецца, у іх шуме песня пра выдатнага беларускага паэта, які тут нарадзіўся, правёў дзіцячыя і юнацкія гады, слухаў народныя песні і легенды, тут напісаў многія творы аб нядолі беларускага селяніна, адсюль накіраваўся ў апошнюю дарогу — на Жупранскія могілкі.

Многае змянілася на радзіме паэта. Іншым жыццём жывуць унукі Аліндаркі[1]), адышлі ў нябыт змрочныя карціны сялянскага побыту, якія праўдзіва апісваў аўтар «Дудкі беларускай» і «Смыка беларускага».

Пераеўся хлеб да крышкі,
Бульбы толькі як пасеяць,
І прыварку ані лыжкі,
І скаціна, — хоць развеяць;
Ні саломкі, ні то сена,
Хоць бы на раз для скаціны;
А тут дроў ані палена,
А тут яшчэ нарадзіны!

Цяпер землякі паэта аб'ядналіся ў сельгасарцель імя Жданава і на новы лад будуюць сваё жыццё. Няхай калгас у Кушлянах не самы перадавы ў Смаргонскім раёне, але ён расце, багацее.

Тут, на гэтай маляўнічай сядзібе, многае звязана з імем Багушэвіча. Вось алейка, дзе любіў хадзіць пясняр, абдумваючы свае творы. Непадалёк ад хаты, пад высокай лістоўніцай і клёнамі, — старэнькая альтанка на каменным падмурку — любімае месца адпачынку паэта.

Сусед Багушэвіча васьмідзесяцігадовы С. Альхімовіч успамінае, што беларускі пясняр быў заўсёды з народам, любіў гутарыць з сялянамі, слухаць іх песні. Не раз паэт спраўляў у сваёй хаце вечарынкі для сялян, наймаў музыкаў, прасіў кушлянскіх дзяўчат спяваць песні.

— Браты Францыся — Уладзімір, Апалінарый і Валерыян, як і сам паэт, прымалі ўдзел у паўстанні 1863 г., — апавядае С. Альхімовіч. — Пасля разгрому паўстання Валерыян уцёк за мяжу, а Уладзімір быў сасланы ў Сібір... Пераехаўшы з Украіны ў Вільню, беларускі пясняр часта наведваў Кушляны. Неяк аднойчы да яго прыйшоў селянін Касцюк з просьбай. Скінуў ён шапку і пачаў прасіць: «Паночку, залаценькі...» Багушэвіч падаў яму руку і сказаў: «Шапкі не здымай... І не паночку я, Касцюк, а такі ж чалавек, як ты...»

Хата, у якой селянін знаходзіў калісьці ласкавы прыём, шчырае слова спагады, добрую параду ад чалавека, што апранаўся ў саматканую світку і гутарыў з простымі людзьмі на іх роднай мове, — сёння гасцінна раскрывае дзверы для народа.

Пасля вайны домік паэта быў адрамантаваны, і цяпер тут знаходзіцца сельская бібліятэка імя Францішка Багушэвіча. У адным з пакояў — чытальная зала, дзе сабраны фотакопіі дакументаў з Нежынскага і Чарнігаўскага архіваў, плакаты і кнігі аб жыцці і творчасці пісьменніка. Для паслуг чытача тут ёсць спецыяльны столік-стэнд, дзе выстаўлены творы паэта-земляка на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах, складзен спіс крытычнай літаратуры, зроблена фотавітрына «Па Багушэвічаўскіх мясцінах».

Землякі паэта любяць творчасць беларускага песняра і шануюць яго памяць.

(Урывак з кнігі «Незабыўнымі сцежкамі»)

1) Аліндарка — герой паэмы Ф. Багушэвіча «Кепска будзе».

# МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА

Трэба заклік да раніцы кончыць, —
Ты па сёлах яго разнясеш.
Апранешся у торбы, лахмоцце,
Можа, возьмеш цымбалы і кій.
Хутка золак заззяе на плоце.
Хутка...
Трэба пісаць...
«Дзяцюкі».

Максім Танк. З паэмы «Каліноўскі».

Скіраваным да беларускай моладзі заклікам «дзяцюкі» пачынаецца першая беларуская газета «Мужыцкая Праўда».

Калі Кастусь Каліноўскі прыступіў да арганізавання рэвалюцыйнай работы на гродзеншчыне, ён разумеў, што, каб пранікнуць у шырокія масы народу, неабходна друкаванае слова у мове гэтага народа.

Каліноўскі быў цесна звязаны з рускім і польскім рэвалюцыйным рухам. Сімвалам братэрства была «Мужыцкая Праўда».

Друкарня была арганізавана пры дапамозе рускіх і польскіх рэвалюцыянераў. Шрыфт, патрэбны для выпуску газеты, здабыў прыяцель Каліноўскага Зыгмунт Серакоўскі з дапамогай Чэрнышэўскага. Друк газеты быў наладжаны ў Беластоку ў памяшканні выдатнага польскага рэвалюцыянера Браніслава Шварца.

У палове ліпеня 1862 г. паявіўся лісток № 1. з загалоўкам «Мужыцкая Праўда». Пасля да паловы 1863 г. выходзяць чарговыя шэсць нумароў.

Гэта скромная адозва — газета ў жывой народнай мове — несла ў сялянскія масы ідэі сацыяльнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларускага народа. Гэтыя ідэі распрацоўваліся і ў далейшых нумарах.

Ужо ў першым нумары Каліноўскі падкрэсліў план рэвалюцыйнай стратэгіі: паказаў асноўную мэту і сілы, якія змогуць дасягнуць гэтую мэту.

Каліноўскі раскрывае сутнасць царскага маніфесту аб «вызваленні сялян», падкрэсліваючы грабежніцкі характар царскай рэформы. Ён выяўляе ілжывасць створанай царскімі прыслужнікамі легенды, што селянін можа дачакацца вольнасці ад цара. Ён паказвае, што сяляне павінны разлічваць толькі на свае сілы.

Сяляне — гэта галоўная рэвалюцыйная сіла. У той час, калі пралетарыят як клас толькі нараджаўся, у абставінах, у якіх знаходзіўся беларускі народ, гэта была думка безумоўна правільная.

Саюзнікамі сялян у яго барацьбе будзе мяшчанства, дробная шляхта, а нават некаторыя паны. Адначасова ён перасцерагае, што паны — гэта саюзнікі няпэўныя і могуць быць дапушчаны ў рады рэвалюцыянераў умоўна:

«А калі паны хочуць трымацца з намі, так няхай жа робяць па святой справядлівасці, бо калі інакш, — так чорт іх пабяры! Мужык пакуль здужае трымаці касу і сякеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе».

У іншых нумарах «Мужыцкай Праўды» Каліноўскі дэтальна распрацоўвае найбольш набалелыя праблемы тагачаснай вёскі. Ён паказвае на галечу і бяспраўнае становішча сялян, на непасільныя павіннасці і падаткі, на набор рэкрутаў, які азначае амаль пажыццёвую ссылку на не менш цяжкую, як катаржная работа, царскую службу.

Выхадам з гэтай сітуацыі з'яўляецца адмена прыгону, звяржэнне царызму і пабудова вольнага грамадства.

Словам «вольнасць» жангліравалі тады, як і цяпер, усе, да прыгоннікаў уключна. Асабліва любілі дэкламіраваць аб «вольнасці» рэакцыйныя прадстаўнікі памешчыкаў — «белыя» — у Польшчы.

Каліноўскі паказвае на класавы сэнс гэтага паняцця і перасцерагае, што гэтае слова па-рознаму разумеюць памешчыкі і сяляне.

«Цар сто раз пытаў у паноў, якую яны вольнасць хочуць даць мужыкам, якой вольнасці яны хочуць. Ён нашай вольнасці баіцца».

Паводле Каліноўскага, селянін вольны, калі мае кавалак зямлі, за які не плаціць чыншу, не адрабляе паншчыну, калі плаціць невялікі, пасільны падатак, які ідзе не на ўтрыманне царскіх стайняў, сабачарняў ды царскіх палюбоўніц, а на патрэбы ўсяго народа, калі не гоняць яго як жывёлу ў рэкруты, а ідзе ў патрэбе бараніць ад ворага свой край, калі ён можа без перашкод вызнаваць веру, якую ён хоча, калі ён будзе рабіць усё, што яму падабаецца, калі гэта не прыносіць крыўды іншым.

Ідэя сялянскага паўстання настойліва прапагуецца на старонках «Мужыцкай Праўды». «Возьмемся, дзяцюкі, за рукі і дзяржэмся разам», — заклікае ён сялянскую моладзь.

«Падумайце, добра, ды памаліўшыся богу станьма дружна разам за нашу вольнасць... А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі ды з косамі там, дзе дабіваюцца волі ды праўды».

(Заканчэнне на стар. 4)

# З НЕБА ЗОРКА ЎПАЛА І ... ЗГАСЛА

Нядаўна беларускі савецкі друк паведаміў аб смерці жонкі народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, дырэктара Музея Янкі Купалы — Уладзіславы Францаўны Лучэвіч.

Цяжка паверыць у гэта. Не так даўно Яна была ў Польшчы, на нашай Беласточчыне. Мы разам святкавалі Купалаўскія Дні ў 1957 годзе. Так было прыемна пазнаёміцца з Ёй. Так прыемна было быць з Ёй. Было ў Ёй нешта рэдкае, што абуджае сімпатыю адразу.

У час яе пабыўкі ў Беластоку адбылося спатканне з беластачанамі.

На спатканне людзей прыйшло, як ніколі, многа, бо было вядома, што можна ўбачыць жонку Янкі Купалы. Але потым сталася так, што не толькі адбітым святлом аб славе любімага паэта ачаравала Цёця Уладзя людзей, але і сваёй уласнай сімпатыяй, энергіяй, душэўнай прыгажосцю. Жонка Янкі Купалы і самабытная Цёця Уладзя з багатым і добрым сэрцам зліліся ў адно.

Мне асабліва помніцца гэты вечар. На ім я чытала верш Янкі Купалы «Ужо днее».

— Вы цудоўна прачыталі гэты верш Янкі, — сказала потым Цёця Уладзя, пацалавала мяне і аддала мне свой вялікі букет, які раней Ёй быў уручаны на прывітанне.

Цёця Уладзя была вельмі жвавая і вясёлая. Яе кожнае слова, помню, было важкім для ўсіх, хто ў даны момант з Ёю быў. Карысталася павагай і зацікаўленасцю.

У Беластоцкай Медыцынскай Акадэміі яна спаткалася з праф. Славінскім, сваім і Янкі Купалы сябрам і прыяцелем з даўніх год. Сардэчна з ім расцалавалася. Абое былі ўсхваляваны. Абое вельмі рады спатканню. Успаміналі мінулае.



Цёця Уладзя ў Бельску на спатканні з жыхарамі горада.

Пабывала Цёця Уладзя і ў Бельску, і ў спулдзельні прадукцыйнай у Дзяніскаж у Бельскім павеце. Была нязморнай.

Вяртаючыся з гэтай паездкі ўвечары, Цёця Уладзя мела магчымасць бачыць існуючы на Беласточчыне цікавы і мілы звычай пускання дзяўчатамі вянкоў на ваду на Яна. Яна ізноў была ўсхвалявана. Затрымала машыну, і доўга стоячы над рэчкай, без слоў глядзела на мігатлівыя агні свечак у дзявочых вянках, якія павольна плылі ўніз. Аб чым думала?

Потым надта ж спяшалася ў Мінск, бо ў Вязынцы, на радзіме Янкі Купалы, яе чакалі украінскія пісьменнікі. Мы вельмі прасілі Яе застацца яшчэ хоць на некалькі дзён.

— Я б ахвотна засталася, але я паабяцала, што буду, — адказала лагодна, але станоўча. І трэба было згадзіцца.

Мы з мужам праважалі Яе на граніцу. На заставе нікога не было. Трэба было пачакаць. Стаяў цёплы чэрвеньскі дзень. Мы сядзелі на пажоўклай ад сонца мураве на ўзгорку. Муж з шафёрам паехалі ў мястэчка за пагранічнай вартай, каб аформіць пераход праз граніцу.

Гаварылі мы мала. Добра было сядзець. І мне вельмі шкада было, што Яна ад'язджае



У Вязынцы. Настаўнікі беларускіх школ Беласточчыны гутараць з Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч.

А потым граніца ажыла з нашага і асабліва з таго боку. Цёцю Уладзю прыехала сустракаць цэлая дэлегацыя з кветкамі. Яна была ўзбуджана. Сардэчна развіталася з намі і хутка перабегла граніцу проста ў адкрытыя абдымкі сяброў. Я аж пазайздросціла, што гэта не я сустракаю Цёцю Уладзю — з такой радасцю ступіла Яна на сваю зямлю да сваіх людзей.

Нашае вяртанне дамоў было маўклівым.

Потым я бачыла Цёцю Уладзю на здымку з групай нашых настаўнікаў, якія былі ў Мінску на курсах. Яна зусім не змянілася.

А цяпер вось... Яе няма. А мне не хочацца ў гэта верыць...

ВЕРА ЛЕЎЧУК



 

